У нумары: Хрэн не салодшы за рэдзьку
Данута Бічэль Загнетава
Марнатраўства званае асцярожнасцю

Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 38 (447) | ГОД IX | 20 ВЕРАСНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.

# Ялоўцы сваё клопаты

Кожная вёска мае свае радасці і ўцехі. Кожная мае і свае клопаты. Мае іх і Ялоўка.

Да Ялоўкі трапіў я якраз у той дзень, калі адбывалася змена старшыні Грамадскай Рады Народовай. Стары старшыня Уладзімір Павліч перамазваў сваю пасаду новаму — Міхасю Усовічу. У апошнія месяцы — гэта ўжо трэці старшыня ў Ялоўскай ГРН. Частыя змены старшынь — клопат нумар адзін Ялоўкі.

Вядома, што старшыня — найважнейшая фігура ў грамадзе. І калі надта часта змяняецца старшыня, адбіваецца гэта адмоўна ў працы ГРН. Да таго ГРН у Ялоўцы мае даволі дзіўныя звычаі.

А вось прыклад. Калі старшынёю ГРН быў яшчэ Аляксандр Парэмскі, сяляне з Ялоўкі вазілі па яго загаду розных дзяржаўных працаўнікоў да розных вёсак грамадскай рады і да Міхалова. Да Міхалова з Ялоўкі 27 кіламетраў, і зімою, калі дарогі завее снегам, або пад весну, калі пачне раставаць снег, не даедзе туды ніякі самаход, да Міхалова можна дабрацца толькі возам. І таму сяляне з Ялоўкі возяць вазамі каго трэба ў Міхалова. Старшыня абяцаў сялянам палічыць гэта ў абавязкі грамадскага фундушу.

Потым, калі сяляне Ялоўкі пыталіся, чаму ім іх паездак не ўлічылі ў грамадскі фундуш, працаўнікі грамадскай рады адказалі: Ідзіце да Парэмскага (значыць, да былога старшыні), хай ён улічыць, калі ён вам казаў ехаць. А потым, супакоіўшыся, працаўнікі Ялоўскай ГРН далікатна растлумачылі сялянам, што старшыня ГРН павінен быў узяць грошы ў банку, заплаціць ім гэтымі грашыма, а яны (сяляне) сваім парадкам павінны заплаціць свае належнасці на конт грамадскага фундушу.

(Працяг на стар. 5)


Від на Ялоўку

У апошні час пасля IV З'езда Партыі праводзіла нараду пашыранае Пленарнае пасяджэнне Камітэта да спраў сельскай гаспадаркі пры Павятовым Камітэце ПАРП у Гайнаўцы. Цяпер ва ўсіх грамадах, вёсках і ўстановах ідзе дзелавая дыскусія. Да павятовых улад плывуць прапановы.

Гаворыць сакратар КП ПАРП інж. Эдуард Жытавецкі: — пастановы З'езда ўзбудзілі да намагання кожнага, хто працуе над паляпшэннем сваёй гаспадаркі, месца сваёй працы, кожнага, хто працуе на грамадскай ніве.

*

Гаспадаранне ў Гайнаўскім павеце пачыналася ад нічога. 20 год таму 94% гаспадарак было знішчаных. Нямнога засталося жывёлы і прылад да працы. Выпадала тады толькі 4 штукі быдла на 100 га. Не было насення, дарог, мастоў.

# Гаспадарскі розум на Гайнаўшчыне

## УЧОРА, СЁННЯ і ЗАЎТРА

Даўней сабіралася тут 6—8 цэнтнераў з га, цяпер збіраем 15. На 180 ц больш дае кожны гектар цукровых буракоў, на 60 ц бульбы. Тры разы больш маем свіней і больш быдла.

У міжваенны перыяд не змеліяравана ў павеце аніводнага гектара лугоў, цяпер да 1963 г. аж 11.544 га. Толькі на меліярацыю ў 1963 г. з бюджэту павета выдадзена 10.240 тыс. зл. Да вайны ніводная гайнаўская вёска не мела электрычнага святла, у нашым 20-годдзі электрыфікавана 108 вёсак.

Гэта бясспорныя факты.

На гайнаўскай вёсцы працуе 92 сельскагаспадарчыя гурткі, з 3098 членамі і 64 гурткі вясковых гаспадынь з 7936 членамі. Адной з галоўных прапаноў, якія выйшлі ў пасляз'ездавых нарадах на Гайнаўшчыне з'яўляецца справа павелічэння гурткоў. У выніку дыскусіі 18.VIII.64 г. быў арганізаваны 25-асабовы гурток у Ляўкове Старым.

Апрацавана таксама план актывізацыі арганізацыі вясковых самаўрадаў, асабліва тых, якія не надта выкарыстоўваюць фонд развіцця сельскай гаспадаркі.

Звернута ўвагу на ўстановы, пакліканыя да паслуг вёсцы. У 5 ГС-ах, малачарні, 4 СОП-ах і Аграднічай спулдзельні апрацавана праекты пашырэння паслуг.

Партыйны актыў рад нарадовых ведае, што без пашырэння паслуг нельга павялічыць прадукцыю збожжа, мяса, малака. Перапрацоўчая прамысловасць і паслугі — гэта неадлучная частка росту сельскай прадукцыі. Так гучыць адна з прапаноў гаспадароў Гайнаўшчыны ў адрас Гайнаўскага Камітэта для спраў сельскай гаспадаркі.

## ЗЯЛЁНЫЯ ЎГОДДЗІ — ПРАБЛЕМА № 1

Зялёныя ўгоддзі, як сцвярджаюць гайнаўскія гаспадары, — адзін з галоўных рэзерваў гаспадаркі. У найбліжэйшыя гады гаспадары павялічаць збор сена на 3000 тон. У пасляз'ездавых нарадах гаспадары абавязаліся лепш даглядаць лугі, больш даваць на меліярацыю, лепш дбаць пра кансервацыю меліярацыйных равоў. Прытым зроблена адпаведныя крокі, каб прыспасобіць да працы над меліярацыйнай сістэмай хаця некалькі сотняў маладых людзей, сыноў вёскі.

(Працяг на стар. 5)


Мужчыны фота: Паўлючук



 




# У Саколцы зрух

10 жніўня г.г. у Саколцы адбылося пасяджэнне Праўлення аддзела БГКТ прысвечанае ў асноўным абмеркаванню далейшага развіцця дзейнасці нашага таварыства на Сакольшчыне. Старшыня Аддзела А. Рафаловіч ва ўступным слове да дыскусіі асаблівую ўвагу звярнуў на патрэбу актывізацыі працы гурткоў. Вакол гэтага пытання і сканцэнтравалася дыскусія. Відаць справа ўсім ляжала на сэрцы. Але нават найлепшыя імкненні праўлення не змогуць даць пажаданых вынікаў, калі яно не патрапіць згуртаваць вакол сябе дастаткова аператыўнага і ахвотнага да працы актыву. І, вядома, найлепш, калі ён пад рукой. Таму на прапанову А. Рафаловіча праўленне вырашыла: перш чым прыступіць да парадкавання працы ў вясковых гуртках, упарадкаваць працу гуртка ў Саколцы і на яго базе стварыць надзейны актыў для Аддзела. На гэтым жа пасяджэнні, на прапанову члена праўлення Ольгі Паўлючук, пастаноўлена высылаць на вёску лектараў, якія папулярызавалі б нашы дасягненні не толькі ў культурнай і грамадскай галінах, але і ў галіне тэхнікі, гаспадаркі і г.д.

Неўзабаве адбыўся сход гарадскога гуртка. Праходзіў ён у творчай атмасферы. Нягледзячы на тое, што гурток не збіраўся ўжо два гады, і за гэта яго праўленню належаліся суровыя словы крытыкі, удзельнікі сходу аднак сканцэнтраваліся на будучай працы. Відаць не малую ролю адыграла тут і новае памяшканне Аддзела. Даволі прасторнае, у якім шмат чаго можна зрабіць. Кожны з выступаючых цешыўся з гэтага факту. На гэтым сходзе палі наступныя прапановы: арганізаваць святліцу, пры ёй, у сваю чаргу, стварыць мастацкі гурток; наладзіць прэсавыя, дыскусійныя і танцавальныя вечарыны. Пастаноўлена было таксама ліквідаваць залегласці ў складчынах (ахілесавая пята ўсіх гурткоў) і прывесці ў парадак памяшканне Таварыства. Сход выбраў таксама новае праўленне, якое ўзначаліў Анатоль Севасцьянюк.

Што пастановы не засталіся мёртвай літарай сведчыць факт, што ў кароткім часе значна павялічыліся ўплывы са складчын, а памяшканне Таварыства ў Саколцы блішчыць не толькі свежа памаляванай падлогай, але і чыстымі сценамі, сталамі і парадкам. Усё зроблена грамадскім чынам, у якім асабліва выдзяліліся Леанід Пятрашкевіч і Віктар Рагацэвіч.

Усё гэта сведчыць, што ў працы нашай сакольскай арганізацыі наступае зрух. Ці ён на доўгую мэту? Хочацца верыць, што так. Ёсць добры напрамак і арганізатары, павінен знайсціся адпаведны актыў. А тады справа ў паслядоўнай рэалізацыі задач. Варта адзначыць добрую працу новага інструктара на сакольскі Аддзел Сяргея Крышэня. Жадаем далейшых поспехаў.

(рл)

лася залежна ад таго, ці беларусы былі каталікамі ці праваслаўнымі. Станіслаў Касакоўскі сцвярджае, што «палітычныя ўказанні маем ясныя: на тэрыторыі Міншчыны беларусізм падтрымліваецца як забеспячэнне супраць Расіі, на тэрыторыі Брэсцкай акругі гэта лішняе. Бярэцца пад увагу толькі падтрымка культурных імкненняў, а не палітычных. У гэтак званай Беларусі будзе або польскасць, або рускасць, усялякая падтрымка беларусізму штучна яго стварае, але і гэта не здолее прыдаць яму дастатковай сілы, на толькі, значыць, трэба манеўраваць, на колькі імкнецца ён да пераадольвання ўплываў рускіх. Напрыклад, калі насельніцтва просіць рускую школу, даецца яму беларускую школу»[5])

Трэба падкрэсліць, што справы беларускай культуры трактаваліся неаднолькава таксама залежна ад палітычнага становішча. Так, напрыклад, перад абліччам мірных перагавораў з Савецкай Расіяй у Мінску вяліся размовы з «Беларускім урадам». Пілсудскі, прагнучы вымусіць на беларусах падтрымку польскіх патрабаванняў у магчымых мірных перагаворах, ішоў на «значныя культурна-фінансавыя канцэсіі», выключаючы адначасова трактаванне прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі ў Мінску як урада. Як вядома да перагавораў не дайшло. Перамагла ваенная канцэсія. У гэтым становішчы не магло быць гутаркі аб якіх-небудзь уступках з боку Пілсудскага беларусам.

**ЭДУАРД РАДЗЕВІЧ**

1) Roman Dmowski: KNP t. 4 protokół Nr 92.
2) AAN, KNP, t. 4 protokół 92.
3) гл. Memoriał Wacława Iwanowskiego.
4) Там жа.
5) APAN, Dariusz 1 5/1 s. 40/42.

## Вясковыя дзяўчаты

Вечарам ходзяць па вёсцы,
Гукаюць вяснянкі вёсны.
Цэлы дзянёк у полі
Ручкі лянок палолі.
Ім бы на плечы хлапечыя
Лёгкімі пёркамі легчы,
Пяшчотна іх абдымаць,
Толькі хлапцоў няма.
Дзе яны, тыя дужыя,
Дружаць з якімі сцюжамі?
Мусіць ад рук адбіліся,
Клятвай навек не скаваны?
Ці гэта для іх зрабіліся
Сумнымі дні вясковыя?
Ці дзе ім нялёгка прышлося
І затрымацца трэба?
А можа па краю калёсяць,
Шукаючы лёгкага хлеба?
А ў вечарніцы ціхія
Дзяўчаты, як грушкі дзікія,
Пояцца чыстымі росамі.
Гутаркі водзяць з калоссямі.
Смуглымі гнуткімі целамі
Маладзічок любуецца
І збажына самлелая,
І анямелая вуліца...

★

Як з яечка птушкі,
Выбеглі з хацінкі
Рыжыя вяснушкі,
Босыя цыпкі.
Зялёны певень
Узмахнуў крыламі —
Ажыла, запела
Зямля пад намі.
Сарокі
Плёткі
Прадаюць любоўна,
А мы — лябёдкі —
У свой бульбоўнік.
Пяём спрасоння:
Дзень добры, сёння!
Гайдаюць сосны
На хваінках сонца.

★

Сонцу, яму вядома,
Каго прывітаць спачатку.
Прачнецца — адразу на Нёман.
Сядзе ў рыбацкую чайку.
Закіне у тоні невад —
І паплыло на неба.

## Данута Бічэль-Загнетава



Сёння прапануем нашым чытачам вершы Дануты Бічэль-Загнетавай. Паэтэса нарадзілася ў 1938 г. у вёсцы Біскупцы, Лідскага раёна, Гродзенскай вобласці. Бацька — селянін. Закончыла Педагагічны інстытут імя Янкі Купалы ў Гродне. Тут жа і жыве. Працуе настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Першую паэтычную кніжку «Дзявочае сэрца» выдала ў 1961 г. У дарозе зборнік «Нёман ідзе».



Мяне лета ў горадзе скоўвае.
Я — сялянка, жанчына вясковая.
Без работы баліць паясніца,
Серп зублёны начамі сніцца,
Я вяртаюся у жаданае.
У дзявочае,
У нядаўняе.
З непрывычкі стала заслабая,
Не зжынаюся з дужымі бабамі,
Я ад крыўды амаль раву,
Перавяслы тугія рву.
І ні стомы, ні пылу, ні часу,
Нават болю не прыкмячаю.
Зноў жняя
У свой род прынятая.
Ох, як пахне трава прымятая...

Ты напаі мяне з крыніцы сэрца,
Што ад крыніц прынёманскіх бяздонней.
Сагрэй мяне ў раллі сваіх далоней —
Ва мне лісточак кожны разаўецца.
Я стану дрэвам цвёрдым і вялікім,
Пад навальніцай злою не сагнуся.
Я для цябе — вярбовая галінка
І каташкамі да цяпла хінуся.



## ЛЯ АРЛЯНКІ

Яшчэ два гады таму назад была тут гэтакая дрыгва, што зусім не можна было дабрацца да рэчкі. Цяпер прасторныя лугі ля рэчкі Арлянкі зменіяраваны. Усё зараз залежыць ад таго, ці чалавек патрапіць выкарыстоўваць тэхніку для свайго дабра, ці не. Некаторыя факты паказваюць, што ў наваколлі Орлі нават звычайнымі застаўкамі на меліярацыйных канавах не заўсёды ўмеюць як след карыстацца.

Тэкст і фота
**В. Рудчык**





# Амністыя

**У сувязі з дваццатай гадавінай утварэння Народнай Польшчы 22.VII.64 быў выдадзены дэкрэт аб амністыі. Паколькі многія праблемы гэтага закону цікавяць шырокія кругі чытачоў «Нівы» падаем кароткі перагляд асноўных пытанняў урэгуляваных дэкрэтам.**

Асноўнай пастановай закону аб амністыі з'яўляецца дараванне турэмнай кары да аднаго года і змякчэнне кары да двух год турмы за правіннасці зробленыя перад 22 ліпенем 1964 года. Больш шырока прымяняецца амністыя ў адносінах да жанчын, якія маюць на ўтрыманні прынамсі адно дзіця да 14 год, або якія скончылі 55 год жыцця, а таксама да мужчын звыш 60 год і моладзі да 18 год. (У гэтым апошнім выпадку амністыя прымяняецца толькі да турэмнай кары і грашовага штрафу, а не адносіцца да папраўчага дому). У адносінах да гэтай катэгорыі асоб даруюцца турэмныя кары да двух год і змякчаецца да паловы турэмнай кары да трох год. Пры няўмысных правіннасцях змякчэнне кары да паловы прымяняецца ў адносінах да прыгавораных на турэмнае зняволенне да пяці год.

Ужо з гэтага вынікае, што амністыя прымяняецца перад усім да тых, хто ў асноўным дапусціўся менш цяжкіх правіннасцей. Пацвярджаюць гэта далейшыя пастановы дэкрэта. Незалежна ад кары, на якую прыгавораны абвінавачаны, ён не карыстаецца з амністыі, калі быў ужо караны за такую самую правіннасць (рэцыдывіст). Не прымяняецца амністыя ў адносінах да прыгавораных за хуліганства, хабарніцтва, разбой, платны пратэкцыянізм, сабатаж і шкодніцтва.

Даруюцца грашовыя штрафы да 5000 зл., калі яны наложаны як самастойная кара. Калі ж штраф выступае побач з карай турмы або арышту, ён даруецца толькі тады, калі наложаны ў колькасці не большай чымсьці 1000 зл. Штрафы ў размерах вышэйшых не падлягаюць амністыі, г.зн. што калі хто, напрыклад, прыгавораны на 6 месяцаў турмы і 1500 зл. штрафу, то на аснове амністыі — турэмная кара даруецца яму поўнасцю, а 1500 зл. штрафу мусіць ён заплаціць.

Незаплачаныя судовыя кошты даруюцца, калі падлягае дараванню асноўная кара турэмнага зняволення, або штрафу, хаця гэтая кара была ўжо адбыта.

(Працяг на стар. 5)



 

# МАРНАТРАЎСТВА ЗВАНАЕ АСЦЯРОЖНАСЦЮ



Млын швграў — гэта ўсё, што засталося з іх асцярожнасці.

У Навасёлках, за гумнамі, над рэчкай Супраслю, тырчаць разваліны млына. Ён не стары, няма ў ім страхаў. Будавала яго тройка швграў — не бедных і не багатых. Перад вайною вымуравалі яны будынак, а пасля вайны ўзяліся ставіць драўляныя канструкцыі ў лянівых водах Супраслі. Цяпер тыя канструкцыі адыгрываюць ролю дзіравага маста, а ў пустаковай мураванцы доўгія годы шумелі святочныя забавы (малолі пыл ножкі заўзятых танцорак).

Што сталася?

У млыне не страшыць, але швграм нагнала белага страху першая хваля падаткаў на прыватную ініцыятыву ў пяцідзесятыя гады. У момант зніклі яны з-над рачнога плёсу, машыны прыхавалі.

Сам не гам і каму не дам — згніе, зіржавее.

Потым была магчымасць атрымаць пазыку для заканчэння будовы, але швгры ва ўсім нюхаюць хітрасць, падступнасць.

На лаўцы пад плотам талкавалі гаспадары:

— Я, пане, сам здаў бы млын, стаў бы «жандовым» млынаром, так як Шынкевіч у Крынках ці Карпінскі ў Нетупе, або Бура ў Бандарах...

— Ім не баліць галава, адкуль браць грошы на дарагія рамонты...

— Дзе як дзе, але ў млынароў манкаў не бывае, — падмаргнуў трэці гаспадар.

Навасёлкаўцам надакучыла валачыцца блізкі свет, каб намалоць мяшок - другі пытляванкі. Аднак не можна сказаць, што людзі надта абразіліся на швграў. Нават задаволены тым, што яны абселі, пусцілі ўсё ў пустапаш.

**— Не разбагацеюць!**

Гэтыя словы адносяцца не толькі да недаверлівых швграў. Вёска мае сотні тысяч дарэмных грошай на рахунку ФРР. І адначасна не мае нічога, ні кала, ні двара — ані малатарні, ані трактараў, словам, ніякай сельскагаспадарчай тэхнікі (трактарыст Лёва працуе ў суседнім, залуцкім сельскагаспадарчым гуртку).

Мо' Навасёлкі не любяць, ненавідзяць тэхніку? Няпраўда! Залуцкая малатарня гудзела тут як шалёная, малаціла, аж міла глянуць, ды не паспела ўсіх пацешыць. Залукі забралі яе назад, не ўступілі просьбам. Солтыс Ёзік Бурса раскладае рукі:

— Зараз сеяць трэ' ісці і не кончым малаціць! Казалі Залукам — пачакайце пару дзён, не забірайце малатарні, больш даходу наробіце сабе....

Нічога не зробіш — **іх малатарня, іх права.**

У Навасёлках таксама прабавалі ўстанавіць сваё права, гэта значыць, стварыць сельскагаспадарчы гурток. Не раз прабавалі.

— Ага, або хіба пераканаеш іх, мужчын нашых, — пачуў я ў кухні голас маладой гаспадыні.

— Малатарню купілі б, і крайзегу, і млынок, — шкадуецца солтыс. — Нашы людзі хапаюцца на астатку, у хвасце за другімі...

**Захочуць хапіцца ды не будзе за што.** Навасёлкаўскі капітал ФРР замарожаны, праз год-паўтара адбяруць яго суседнія сельскагаспадарчыя гурткі, якіх поўна ў аколіцы. — Хутка адмарозяць, зробяць абарот на куплю ніколі не лішніх машын.

Варажу Навасёлкам невясёлую будучыню. Хто ведае, можа спраўдзяцца Бурсавы словы, тады давядзецца купляць вясковую малатарню, крайзегу ці млынок па стопрацэнтавых цэнах. Аб тым, што раней ці пазней прыдзецца купляць — няма чаго сумнявацца. У наш век машыны патрэбны, як хлеб, як вада і паветра. Стопрацэнтавыя цэны акажуцца непамерна высокімі малюткай вёсцы. Зрэшты, мабыць, непатрэбна бядую: у жыцці часта здараецца, што тавар набываюць не таму, што ён добры, але таму, што ён дарагі...

Недаверлівасць называюць у Навасёлках **асцярожнасцю** з тых пор, калі землямер-невук павынаходзіў на лясунскіх палосках IV, а нават III класы зямлі (дзесьці пад Багонкам).

— Ля, — кажа Юравец, — бачу, піша ён мне IV клас. Добра, што хаця не сёмы або які-небудзь восьмы клас. Думаю, падаткі паменшаюць, а тут наадварот... халера іх зналася на гэтых класах...

Землямерскае свінства грамадская рада выпраўляла, прызнаючы пагалоўна высокія ільготы, але ў паперах (планах) памылку маглі выцерці толькі міністэрскія глебазнаўцы. Яны мацалі баразны, мацалі, ды цвёрдь паабяцалі ратунак яшчэ да асенняй сяўбы (пэўна, ужо выканалі абяцанку, солтыс спадзяваўся іх з дня на дзень). Цяпер Юравец напэўна дакладна дапільнаваў сваіх класаў. Асцярожны гаспадар!

**Асцярожны гаспадар** — гэта такі гаспадар, які плаціць найменш падаткаў. У Бурсавых солтысаўскіх кнігах фігуруе 106 плацельшчыкаў, хат у вёсцы штосьці каля 50.

— Дзеляць зямлю на братоў, сыноў, дочак, жонак і невядома каго. Абы паменшыць гаспадарачкі, абы замест падатку быў падатачак, от, такі невялічкі, на пару соцень злотых...

Гэтым не хачу цвярдзіць, што мясцовы люд не верыць у мажлівасці павелічэння ўраджайнасці роднай зямліцы, хаця, праўду кажучы, на ёй зможа вырасці адно сыпкая, смакавітая бульба (некаторыя кантрактуюць свіней). Навасёлкаўскія людзі ў пагоні за штучнымі ўгнаеннямі патрапяць дабрацца да ГС-аўскіх складаў у далёкім мястэчку Крынкі і раскупіць дачыста каліевыя запасы, пакуль сонныя мяшчане згледзяцца ды прыбягуць на разбор шапак...

— Асцярожны гаспадар! Бач ты яго, прыпёр з Крынак гару мяшкоў з каліем!!

САКРАТ ЯНОВІЧ
фота аўтара



**Святліца. Сяргей запэўніў мяне, што аздобны павук, які я бачыў пад столлю, вісіць трэці-чацвёрты год, а занавескі на вокнах зроблены з сцэнічнай заслоны, якую даўным - даўно набылі за даход з выязднога прадстаўлення ў Сукавічах. Няцаўна ў Навасёлках створана — ужо другі раз — гурток ЗМВ і сарганізавана даходную вечарыну, каб як гаворыцца, раскруціць працу сярод вясковай моладзі. Арганізатару вечарыны гарадоцкая міліцыя пастаралася 900 зл кары з заменаю на 40 дзён арышту, а беластоцкая пракуратура чым хутчэй прыслала наказ ісці ў гэты арышт... На шчасце, наказ аказаўся звычайнай канцылярыйнай памылкаю, у навале спраў не зглездзелі, што кара аплачана акуратна. Гэты факт стаў вадою на млын (не, не швграў), які мае змалоць моладзь, пераканаць яе да навасёлкаўскай асцярожнасці. Старыя сцвердзілі:**

**— Жывеш, хлеб жуеш і не высоўвай носа...**

# Святочныя кветкі бабулі са Скраблякоў

Скрабляк! — добрая беларуская вёска, закінутая сярод лесу 30 жніўня перажыла яна не абы якую ўрачыстасць. Збор плёну сваёй працы. Такое свята заўсёды радаснае, вясёлае і ўдзячнае. Тым больш, калі гаспадар улажыў многа працы, каб плён быў лепшы. Скраблякі святкавалі вялікае свята, прымалі новапабудаваную школу ў сваёй вёсцы. Яна была тут патрэбная, вельмі патрэбная, вельмі чаканая. І вось увайшлі, урэшце, у яе парогі дзеці з біццём сэрц. Малых, але прагных ведаў.

Ведаем, што школа ў Скрабляках збудавана грамадскім чынам. Каштавала 450 тысяч злотых. Ведаем, што людзі не пашкадавалі сіл — працавалі вельмі многа. Ведаем, што пры будове гэтай школы бабулі скрабляцкія прымалі ўдзел і яны прынеслі кветкі на адкрыццё. Пішам аб гэтым, бо цешымся, бо Скраблякі — беларуская вёска сярод беластоцкіх лясоў аказалася добрай сям'ёй.

Адкрыццё школы збеглася з гадавінай выбуху II-ой сусветнай вайны. У сувязі з гэтым на ўрачыстасці былі прадстаўнікі Савецкай Арміі. Ад нашых улад быў І-шы сакратар Павятовага Камітэта ПАРП і намеснік інспектара асветы на Беластоцкі павет. (вл)

# ГАЙНАЎКА Ў КОНКУРСЕ

Ведаем ужо, што конкурс на чысціню гарадоў працягваецца. Зараз паглядзім, што ён даў Гайнаўцы.

Будова вуліцы XX-годдзя разам з тратуарамі і кветнікамі (вуліца асфальтаваная); прыгожы сквер на скрыжаванні вуліц Варынскага і 1-га Мая; месца стаянкі для ПКС, пры якім таксама зроблена сквер і кветнікі; загаспадараванне парку адпачынку каля дома культуры «Гурнік»; спартыўная пляцоўка ў квартале «Міленіум»; 600 дрэў, якія пасаджана ўздоўж вуліцы Дольнае. Разам вартасць гэтых прац у Гайнаўцы сягае 950 тысяч злотых.

Конкурс здае экзамен. (вл)

МЕСЯЦ СФОС

# ВЯЛІКАЯ ПРАЦА

Верасень — месяц СФОС-у, арганізацыі вышэйшага прызначэння, арганізацыі, якая будуе краіну. Узнікла яна 8 мая 1945 года па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам тагачаснага слёнска-дамброўскага ваяводы Аляксандра Завадскага, як камітэт дапамогі Варшаве. За першыя месяцы Слёнск выслаў Варшаве будаўнічых матэрыялаў на 50 мільёнаў злотых і адначасова заклікаў іншыя ваяводствы пайсці па яго прыкладу. Такі быў пачатак, а потым?

Потым, да 1963 года СФОС сабраў звыш 4 мільярдаў злотых. Збор за 1963 год раўняецца 690 мільёнам.

За гэтыя грошы зроблена 9.612 розных інвестыцый. Некаторыя: у Варшаве — Старэ Мяста (300 мільёнаў зл.), Стадыён X-годдзя (50 мільёнаў), Нарадовая Філармонія (50 мільёнаў), Торвар (30 мільёнаў), Віляноў (93 млн), Ратуша ў Беластоку (3,9 млн.), Старэ Мяста ў Гданьску (14 млн), Парк Культуры і Адпачынку ў Катавіцах-Хажове (86 млн), Аперэта ў Лодзі (28 мільёнаў), Тэатр Размаітасцей у Вроцлаве (4,5 мільёна). А цяпер?

Цяпер СФОС будуе пункты аховы здароўя на вёсках. У 1965—70 гадах іх збудуецца каля 2000, толькі, колькі нам у асноўным яшчэ цяпер трэба.

Для школ СФОС пастанавіў даць 20 мільёнаў зл. на палітэхнізацыйныя прылады і дапаможнікі. Так у скарачэнні выглядае яшчэ адзін твор памершага нядаўна старшыні Дзяржаўнага Савета ПНР Аляксандра Завадскага. (вл)

# Закладка бруку

Нядаўна ў Дубічах Царкоўных на вуліцы, якая спалучаецца з дарогай Дубічы — Орля, распачалася закладка бруку. Дагэтуль гэтая вуліца была самай дрэннай у вёсцы, ніколі яна не мела цвёрдай маставой. У часе дажджоў вязкае балота залівала яе.

Па ініцыятыве мясцовага прэзідыума ГРН пачалася будова цвёрдай маставой і закладка бруку. Да гэтага часу зроблена ўжо 100 метраў вуліцы. Брук кладуць тры брукары — Мікалай Чаркецкі, Іван Падлашчык і Рыгор Петручук з Нараўкі. Работа ідзе спраўна. За некалькі месяцаў брук будзе зроблены і прыемна будзе прайсці па новай вуліцы.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

# Сельскагаспадарчы гурток у Рэпісках

У нашай вёсцы існуе сельскагаспадарчы гурток. Нядаўна прывезлі ў вёску камбайн. Маладыя хлопцы пайшлі вучыцца на трактарыстаў, бо прызначана яшчэ таксама трактар «Урсус — 25» з прычэпай і іншымі сельскагаспадарчымі прыладамі.

**Аляксандр Варанко**
Рэпіска

